# Бацькаўшчына

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ Цана 1 н. м.

№ 12 (15) 18 красавіка 1948 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 2

# НОВЫЯ ПРАВАКАЦЫІ

## ЗАМАХ У КАЛЮМБІІ

### КАНФЭРЭНЦЫЯ ПЕРАПЫНЯЛАСЯ

**Багота (BBC).** Панамэрыканская канфэрэнцыя, што адбываецца ў Багоце (Калюмбія), была перапыненая рэвалюцыяй супраць калюмбійскага ўраду кансэрватыўнага прэзыдэнта Пэрэца.

Рэвалюцыя была разьвязаная замахам, на правадыра лібэральнае апазыцыйнае партыі Калюмбіі Гайтана, і мела ў выніку палітычныя забойствы, вялікія пажары й рабункі. У камунікаце, абвешчаным праз урадавае радыё, паўстаньне характарызуецца, як чыста камуністычны манэўр. Забойца Гайтана, работнік, які заявіў, што меў сувязь з камуністымі, быў выцягнуты з крамы й зьлінчаваны натоўпам.

### БУНТ ЗЬЛІКВІДАВАНЫ

**Вашынгтон (ДЭНА-Рэйтар).** Паводля прэсавых паведамленьняў з Баготы, атрыманых у амэрыканскім міністэрсцьве замежных справаў, кансэрватары зноў здабылі кантроль над сталіцай.

### КАЛЮМБІЯ ПАРВАЛА З СССР

**Багота (ДЭНА).** Кантраляванае новым калюмбійскім урадам радыё, паводля Рэйтар, паведаміла, што Калюмбія парывае дыплёматычныя дачыненьні з савецкім урадам.

Радыё падало, што арыштавана 15 чужаземных агентаў, сярод іх 2 Расейцы. Далей паведамляецца, што ~~панамэрыканская канфэрэнцыя пастанавіла весьці да-~~ лей сваю працу ў калюмбійскай сталіцы, «каб камунізм ня мог трыўмфаваць над Калюмбіяй ды іншымі нацыямі».

## ЗМОВА Ў ПАРАГВАІ

### АЛЕ НЕ ЎДАЛОСЯ

**Багота (BBC).** Парагвайская паліцыя паведаміла, што яна выкрыла камуністычную змову да гаспадарстваўскага перавароту. Змова зьвязаная з падобнымі рухамі ў іншых краёх з мэтаю перашкоджаньня панамэрыканскай канфэрэнцыі ў Багоце. Арыштаваны 4 камуністычныя правадыры й сканфіскаваны поўны лік кулямётаў і ручных гранатаў. Знойдзеная радыёстанцыя й колькі тысячаў экзэмпляраў друкаванага на рататары пляну рэвалюцыі. Плян прадугледжваў, між іншага, забіваньне прадстаўнікоў ураду й чужаземцаў.

### ЗАВАДАТАЙ АРЫШТАВАНЫ

**Асунсіён (ДЭНА).** Як падае АФП, арыштаваны генэральны сэкратар камуністычнае партыі Парагваю Кандыя. Ён ублытаўшыся ў камуністычную змову да перашкоджаньня панамэрыканскай канфэрэнцыі ў Багоце.

### КАМУНІСТЫЧНАЯ РАБОТА

**Багота (ДЭНА).** Палітычныя колы Лацінскае Амэрыкі, паводля Рэйтар, трымаюцца пагляду, што ніткі паўстаньня ў Калюмбіі вядуць да камуністычнае змовы, якая павінна была зьврваць панамэрыканскую канфэрэнцыю, што падрыхтоўвала агульныя антыкамуністычныя мерапрыемствы.

Адзін лібэральны калюмбійскі палітык заявіў: «Гэта найлепшая ўдача камуністычнае работы ад часоў Чэхаславаччыны, і нашая лібэральная партыя адыйграла пры гэтым ролю Масарыка».

У горадзе Багоце поўны спакой. Вуліцы апусьцеўшы. Бальшыня жыхароў жывець за забарыкадаванымі дзьвярыма й вокнамі.

### ВАЙНЫ МОЖНА ЎСЬЦЕРАГЧЫСЯ

**Бэрлін (ДЭНА).** Амэрыканскі вайсковы губэрнатар Нямеччыны, генэрал Клей у інтэрв'ю, дадзеным карэспандэнту ІНС, выказаў сваё перакананьне, што новае вайны можна ўсьцерагчыся. Ён аднак перасьцярог ад пагляду, што ўжываная саветамі «тактыка ціску» на ЗША й Вялікабрытанію не пазначыцца ніякімі вынікамі. «Мы імкнёмся да ясна абрысаванае мэты зноў адбудаваць палітычную й эканамічную стабільнасьць Заходняе Эўропы й наважаныя рупіцца аб тое, каб яна была дасягненая». Генэрал Клей зазначыў, што палажэньне ў Бэрліне і цяпер усё яшчэ «вельмі паважнае». Ён даў зразумець, што будзе й надалей весьці станаўкую палітыку пры перамовах із саветамі, калі будзе пачуваць, што саветы спрабуюць зьняважыць правы ЗША, як акупацыйнае ўлады.

«Падзеі мінулых тыдняў, — сказаў далей ген. Клей, — павінны былі-б пераканаць іх (Саветаў) у тым, што ўжываная імі «тактыка ціску» не аплачваецца». Дасюль нельга спасьцерагчы ніякіх адзнакаў таго, каб Саветы маніліся адступіцца ад свайго вымаганьня кантролю аліянцкіх цягнікоў з Бэрліну й на Бэрлін, хаця таварны чыгуначны й аўтамабільны транспарт цяпер ізноў нармальна функцыянуе. Тымчасам яшчэ не абвешчаны ніякі тэрмін для прапанаванае Саветамі канфэрэнцыі для «выясьненьня» новых абмежаваньняў руху».

«Мы заявілі Саветам нядвузначна, — сказаў Клей, — што не пацерпім савецкага кантролю над нашымі вайсковымі цягнікамі, і ад таго часу мы больш нічога ад іх ня чулі».

На пытаньне, што ён думае рабіць, калі-б саветы спрабавалі кантраляваць паветраны транспарт праз калідор між Бэрлінам і Франкфуртам, вымагаючы, магчыма, каб амэрыканскія самалёты прызямляліся дзеля гэткага кантролю ў савецкіх аэрапортах між Бэрлінам і Франкфуртам, ген. Клей заявіў, што ён будзе выступаць супраць усяго, што парушала-б прынцыпы свабоды руху ў паветраным калідоры між Бэрлінам і заходнімі зонамі.

### ПЕРАВОЗЯЦЬ РЭЧЫ...

**Бэрлін (ДЭНА).** З афіцыйнага амэрыканскага боку падаецца, што 8 амэрыканскіх транспартавых самалётаў адляцелі з Бэрліну-Тэмпэльгофу на Франкфурт з хатнімі рэчамі асобаў амэрыканскіх акупацыйных уладаў. Калі дазволяць абставіны й надвор'е, адбудуцца й далейшыя транспарты.

### І Ў АЎСТРЫІ — «КАНТРОЛЬ»

**Вена (ДЭНА-Рэйтар).** Брытанскі высокі камісар ў Аўстрыі, генэрал Галёвай, запратэставаў лістом савецкаму высокаму камісару, ген. Курасаву, супраць новага савецкага вымаганьня паказваць пасьветчаньні з фотакарткамі пры пераступаньні празь мяжу зонаў. Дзеля гэтага вымаганьня былі затрыманыя на цэлы дзень брытанскія службовыя цягнікі на савецкім кантрольным пункце. Афіцэрам у цягніках былі дадзеныя інструкцыі адхіліць савецкія вымаганьні. Пасьля цягнікі зноў пайшлі.

### АПОШНІМ ЧАСАМ

* Галоўнае камандаваньне амэрыканскае акупацыйнае арміі заявіла, што Амэрыканцы змушаныя зьняць постані тэлефоннае й тэлеграфнае сувязі з Бэрлінам у савецкай зоне, бо саветы абвесьцілі, што ня будуць даваць прапускоў для тых, хто працуе на гэтай сувязі. Ангельцы такія постані ўжо зьнялі.

* У лесе на паўночным усходзе ад Бэрліну, у межах гораду, саветы сканцэнтравалі паважную колькасьць танкаў.

* У Вэнэцыю прыбыла брытанская авіяматка «Трыумф» у суправаджэньні зьнішчальніка. Авіяматка прыбыла з Мальты, прабудзе ў Вэнэцыі да 20 красавіка й тады падасца ў Трыест.

* Паводля ацэны амэрыканскага агенцтва ІНС, ў італьянскіх выбарах 18 красавіка камуністычны «народны фронт» здолее здабыць ня больш за 1/3 галасоў.

* Італьянскія, францускія й амэрыканскія паветраныя сілы праводзяць цяпер паветраныя манэўры над Італіяй.

* Югаславія пратэстуе перад амэрыканскім урадам супраць «усё часьцейшых парушэньняў югаслаўскага паветранага прастору амэрыканскімі самалётамі».

* ЗША, Вялікабрытанія й Францыя заклікалі СССР адказаць на прапанову аб перадачы Трыесту Італіі.

* Прэзыдэнт Труман меў нараду з былым начальнікам генэральнага штабу ген. Эйзэнгаўэрам у важных пытаньнях нацыянальнае абароны.

* У Бэрліне чакаецца амэрыканскі паветраны аташэ з Масквы дзеля перамоваў з урадаўцамі амэрыканскага міністэрства замежных справаў, што цяпер часова ў Бэрліне.

* У Парыжы пачалася трэйцяя канфэрэнцыя ў справе пляну Маршала, у якой бяруць удзел 16 міністраў замежных справаў краёў пляну Маршала.

* 18 красавіка а 2-й гадзіне ўраньні у Нямеччыне зноў уваходзіць у сілу сярэднеэўрапейскі летні час. Гадзіньнікі перастаўляюцца на гадзіну наперад (г. зн. з 2-е на 3-ю). Гэты-ж час уваходзіць у сілу і ў Аўстрыі, Вугоршчыне й Італіі.

# ЗА й СУПРАЦЬ

У папярэднім нумары нашае газэты мы зьмясьцілі рэзалюцыю зьезду Беларусаў Бэльгіі, адзін із пунктаў якое (5) заклікае «ўважаць за адзіную нацыянальную народную партыю «Беларускую Незалежніцкую Партыю», як запраўдную народную, абапёртую на беларускія масы ў краі й пастаўленую ад пачатку свайго зайснаваньня на канкрэтным шляху вызвольна-рэвалюцыйнага змаганьня за ўжыцьцёўленьне беларускіх дзяржаўных мэтаў». У сувязі з гэтым некаторыя чытачы пытаюцца ў нас, ці падзяляем мы такое становішча, занятае зьездам Беларусаў Бэльгіі, і як наагул ставімся да яго, дый яшчэ шырэй — да самое справы партыйнасьці. Знаючы нашае гарачае падтрымваньне аўтарытэту БНР, на груньце чаго стаў і зьезд у Бэльгіі, чытачы гэтыя мяркуюць, што мы, магчыма, манімося таксама падтрымаць й фарсаваны гэным зьездам партыйны аўтарытэт БНП, ці мо, маўкліва прынамся, падтрымваем яго ўжо, надрукаваўшы тую рэзалюцыю без усякіх камэнтараў. Усё гэта змушае нас выказацца дакладней і падрабязьней у закранутым пытаньні, тым больш, што насьвятленьне справы партыяў і партыйнасьці і так уваходзіць у назначаную намі на бліжэйшы час праграму актуальнае нацыянальна-палітычнае праблематыкі, якая, панашаму, вымагае распрацаваньня на балонах «Бацькаўшчыны».

Найперш, мы можам заявіць зусім шчыра, што маем поўны рэспэкт да прапагаванае зьездам Беларусаў Бэльгіі «Беларускае Незалежніцкае Партыі», да ейнае мінуласьці й ідэолёгічнае скіраванасьці. Ня можам падзяліць адно палажэньня аб быццам-бы «адзінасьці» гэтае партыі. Перш за ўсё, нам ведама, што й за часамі нямецкае ~~акупацыі ў падзямельлі існавалі, дзеялі~~ змагаліся й несьлі ахвяры й іншыя, таксама незалежніцкія партыйныя арганізацыі, а не адна толькі БНП. Тут можна паказаць хаця-б на адну з такіх арганізацыяў, што паўстала нелегальна яшчэ ў 1939 г. (г. зн. на 3 гады раней за БНП) і актыўна дзеяла ўвесь час, нясучы й вялікія ахвяры ў змаганьні з акупантам (аб ахвярах аднае зь мясцовых арганізацыяў гэтае партыі — вялейскай — пісаў нядаўна ў нашай газэце сп. А. Маханеўскі ў сваіх успамінах пра Вялейскую турму, гл. «Бацькаўшчыну» № 9 (12). Не замерла дзейнасьць гэтае арганізацыі й цяпер, як на эміграцыі, так і ў краі. Але-ж, апрача гэтага, ёсьць у нас, як ведама, і яшчэ колькі партыяў і арганізацыяў партыйнага тыпу, якім нельга закінуць антынароднасьці ці ненацыянальнасьці, якія таксама стаяць на незалежніцкай пляцформе й маюць толькі свае асаблівасьці, з агульнага гледзішча гэтае пляцформы, далёка другарадныя (як, прыкл., нацыянал-дэмакратычная партыя, «рэвалюцыйны нацыянальна-хрысьціянскі рух» сярод Беларусаў Вялікабрытаніі й некат. іншыя). Дык выходзіць, што палажэньне аб «адзінасьці» «Беларускае Незалежніцкае Партыі» — БНП мае больш дэкляратыўны характар, чымся адпавядае фактычнаму стану рэчаў.

Другое, і яшчэ важнейшае, што змушае нас із засьцярогаю ставіцца да дэкляраваньня «адзінасьці» БНП, гэта тое, што такую «адзінасьць» лёгка можна зразумець у сэньсе імкненьня да манапартыйнасьці, што становіць, як ведама, адну з найпершых і найканечнейшых адзнакаў кажнага таталітарызму. Праўда, ніякай партыі нельга адмовіць у праве на веру й перакананасьць у тым, што яна адна правільна разумее й ацэньвае палітычную запраўднасьць ды дзеіць у ёй. Нельга адмовіць таксама кажнай партыі ў зразумелым імкненьні да здабыцьця правадырства — лідэрства ў палітычным руху. Наадварот, навет за проста імпатэнтную трэ было-б прызнаць тую партыю, якая ня мела-б такіх амбіцыяў і асьпірацыяў — у поўнай адпаведнасьці зь ведамым Напалеонавым выслоўем, што «благі той жаўнер, які ня імкнецца стацца генэралам». Аднак, уся небясьпека тут у тым, што ад гэткіх імкненьняў — адзін толькі крок да рыхтаваньня манапартыйнае дыктатуры таталітарызму. Дык тутака трэ было-б раіць, асабліва сучасным партыям, выяўляць больш, казаў той, партыйнае сьціпласьці й талерантнасьці да іншых, да сябе падобных. Бо, як ведама, дэмакратычны лад перадумаўляе не аднапартыйнасьць, а якраз колькі-, ато й шмат- (прынамся, дву-) партыйнасьць. У краёх клясычнае дэмакратыі (Ангельшчына, Амэрыка й інш.) гэткая неаднапартыйнасьць зусім ня прыводзіць да грамадзкага разьбіцьця, а толькі спрычыняецца да эфэктыўнага падзелу працы, здаровага спаборніцтва й палітычнага (а за ім і эканамічнага) красаваньня краю. Пры гэтым рознасьць партыяў не канечна абумаўляецца сацыяльнымі-клясавымі розьніцамі, як часта наіўна-хібна

(пад марксыстаўскім уплывам) думаюць у нас, і не канечна абмаўляе сабой ўзаемную вылучальнасьць і зацятае міжпартыйнае змаганьне ў гэтым сэньсе. Розьніцы могуць быць і чыста тактычныя (як, дарэчы, ёсьць і сярод нашых незалежніцкіх партыяў), і навет проста псыхалёгічныя ці й пэрсанальныя.

Аднак, гэтак бывае ў краёх клясычнае, разьвітое дэмакратыі. У нас-жа — і гэта ўжо трэйці, дый, здаецца, найважнейшы матыў нашых засьцярогаў — нельга ня лічыцца з пэўнымі гістарычнымі абставінамі, што, на наш пагляд, змушаюць зусім іначай разглядаць і ставіць усю справу партыйнага жыцьця наагул. Практыка сучаснае клясычнае дэмакратыі яшчэ аніразу ня мела нагоды хоць аднэю нагою ступіць на нашыя землі. Тапталіся на іх, у лепшым выпадку, дэмакратыі недасьпелыя, неарганічныя й пераймальныя (як, прыкл., польская ў калішняй Заходняй Беларусі). Але найбольш дык таптаді іх, хоць і клясычныя таксама, але ўжо не дэмакратыі, а якраз манапартыйныя таталітарызмы — «фашызмы» — расейскі сталінаўскі й нямецкі гітлераўскі. Дый што там таптаді — і цяпер-жа топчаць цяжкім бальшавіцкім ботам. Дык і само паймо партыйнасьці не магло, дзеля гэтага, не набыць у нас спэцыфічнага адценьня. Ізноў-жа, у лепшым яшчэ выпадку — гэта прысмак групаўшчыны ці супалшчыны, заснаванай на інтарэсах пэўнага палітычнага гандлю. А ў горшым і папраўдзе найгоршым — моцны смурод плыгкага кар'ерызму й шкурніцтва з адзінай «ідэяй» партыйнага білету, як ключа да ўпрывілеяванага палажэньня ў грамадзтве. Якраз гэткае разуменьне партыйнасьці ўзгадавала практыка таталітарызму, найперш і найбольш — чырвонага. I ня дзіва, што пры нядаўным спатканьні з другім, бурнатым гітлераўскім таталітарызмам — нацызмам, асабліва на першых часох, выявілася была такая цяга да «партыйнага жыцьця» сярод ніжэйшых падонкаў грамадзтва, настырлівае імкненьне калі не пралезьці ў самую гітлераўскую партыю (дарэчы, таксама-ж «сацыялістычную»), дык вытварыць нейкую сваю, таго-ж, новага толькі калярова адценьня, на старой, добра засвоенай аснове ўсемагутнага і ўсепанаднага «партбілету». Адно, што ў Гітлера сама партыйнасьць вызнавалася за вылучную прывілею «абранае» расы і ў вадпаведнасьці з гэтым сурова перасьледваліся ўсякія спробы ня толькі прасяканьня ў партыю тых «абраных» «надлюдзей», але і ўсякія прэтэнзіі да заснаваньня нейкае собскае партыйнасьці іншымі, «ніжэйшымі» расамі недалюдкаў-«унтэрмэншаў». Дык ужо й зусім ніякага дзіва няма, што ўсё гэта, разам узятае, так здыскрэдытавала самую ідэю партыйнасьці ў ваччу шырокіх масаў простых, сумленных і шчырых людзей, што яны з агідаю пачалі ад яе адварочвацца. Годнасьць «партыйца» ў іхным ваччу сталася сымбалем прайдзісьвета, кар'ерыстага, шкурніка, «вараціль» й «грамілы», бо ўсе бачылі ў ёй магнэс для людзей такога роду й ганьбу для чалавека сумленнага. I з гэтай адразай ад партыйнасьці, партыяў і «партыйцаў» сярод шырокіх масаў нашага народу нельга ня лічыцца цяпер і ня можна будзе ня лічыцца, на бліжэйшую будучыню прынамся, і там, на родных землях (таксама як, дарэчы кажучы, і з падобнай-жа поўнай дыскрэдытацыяй ідэі ўсялякага «сацыялізму», як-бы хто ні бажыўся ў нейкай асаблівай запраўднасьці й аўтэнтычнасьці рэпрэзэнтаванага ім таго ці іншага разуменьня гэтае ідэі й сыстэмы).

Сэрца простага чалавека не ляжыць сяньня ані да манапартыйнага ладу, ані да шматпартыйнага партыкулярызму. Гэта трэба ўзважыць і ўзяць на ўвагу, бо ў гэтым ёсьць і шмат здаровае рацыі. Просты чалавек сяньня заклікае «да згоды», да адзінства нацыянальнага, панадпартыйнага і мо навет зусім беспартыйнага. Ён заклікае пакінуць дзяліць, як яму здаецца, «пусты мех». Да гэтага нельга ня прыслухацца, хоць тут ужо — другая паважная тэма, якая вымагае адмысловага разгляду. За справы вакол гэнага «мяха» хіба й паспрабуем узяцца ўжо наступным разам, тымчасам зрэзюмаваўшы: **мы — ня супраць БНП, але й не за «адзінасьць» яе, ня супраць партыяў, але толькі ў межах нацыянальнага адзінства, мэтасьведамага й мэтаськіраванага згуртаванага нацыянальна - незалежніцкага руху.**

## НОВЫЯ «КАНТРОЛЬНЫЯ МЕРАПРЫЁМСТВЫ»

**Бэрлін (ДЭНА).** З паінфармаваных колаў падаюць, што аўтарытэтныя органы савецкага вайсковага кіраўніцтва абмяркоўваюць цяпер магчымасьць паставіць вымаганьне спыніць пасажырскі паветраны рух з боку заходніх аліянтаў. Гэтае вымаганьне было-б часткай новараспрацаванага пляну, які прадугледжвае новыя войстрыя «кантрольныя мерапрыёмствы», каб практычна яшчэ больш ізаляваць Бэрлін. У межах гэтага пляну й абвешчаны цяпер савецкімі ўладамі кантроль кабэльных сувязяў з Захадам, а таксама зачыненьне аліянцкае дапаможнае станцыі на аўташляху Бэрлін-Гэльмштэт. Усімі гэтымі мерапрыёмствамі павінна быць унемагчымленае «рабаваньне» Бэрліну праз «вывожаньне прамысловасьці» й адначасна — кантакт з Захадам «антысавецкіх палітыкаў».

### ІЗНОЎ ВЭТА...

**Нью-Ёрк (ДЭНА-Рэйтар),** Паводля АФП, Рада Бясьпекі ЗН пастанавіла прыняць у ЗН Бірму. Гэтую пастанову яшчэ мусіць зацьвердзіць агульны зьезд ЗН.

На прыняцьцё Італіі савецкі дэлегат Грамыка наклаў сваё вэта.

### САВЕЦКА-ФІНСКІ ПАКТ ПАДПІСАНЫ

**Гельсінкі (ДЭНА).** Фінскае міністэрства замежных справаў падало, што ў Маскве падпісаны савецка-фінскі пакт аб вайсковай дапамозе й прыязьні.

# У СЛАВАКОЎ

## АД СЛАВАЦКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ НА НЯМЕЧЧЫНУ

Пасьля падзеяў у лютым сёлета ў Празе й Братыславе, дзе камуністыя ўгібалі ў свае рукі ўсю ўладу ў трэйцяй Чэхаславаччыне, зьявілася ў Нямеччыну шмат палітычных уцекачоў, якія заснавалі Цэнтральны Чэхаславацкі Камітэт. Мы сьцьвярджаем, што гэты Камітэт паўстаў бязь ведама абсалютнае бальшыні навейшае й старэйшае славацкае эміграцыі ў Нямеччыне.

**Славацкая эміграцыя пакінула** сваю бацькаўшчыну не дзеля чэхаславацкіх інтарэсаў, а вылучна дзеля прадстаўніцтва славацкае справы. Таму грунтоўная палітычная памылка і, з палітычнага гледзішча, нятакт з боку арганізатараў г. зв. Цэнтральнага Чэхаславацкага Камітэту, што яны выступаюць пад няйснуючай фірмай «Чэхаславакоў». Гэтага пайма ў славацкім палітычным слоўніку ніколі не йснавала. Мы ня хочам зманіць, што й сярод Славакоў знойдуцца некаторыя прыхільнікі чэхаславацкага адзінства. Але гэта зраднікі славацкае справы й далакопы собскае нацыі.

Славацкая эміграцыя ступае задзіночана пад надпартыйным правадырствам Славацкае Лігі ў Амэрыцы, што ў кастрычніку 1947 г. стала начале славацкага замежнага руху й аднагодна з воляй й жаданьнем больш за 90% усяе славацкае нацыі выступае за самастойнае славацкае гаспадарства. Некаторым дыплёматам, што былі на службе праскага міністэрства замежных справаў, хочацца — хоць сваім паходжаньнем яны й Славакі — разам зь іхнымі чэскімі сябрамі ратаваць ідэю чэхаславакізму. **Ані славацкі народ, ані** якая-небудзь славацкая ўстанова не даверылі гэтым людзям прадстаўніцтва славацкіх інтарэсаў. Таму яны выступаюць, як прыватныя асобы; іхныя пастановы й дзеі ня маюць нічога супольнага з палітычнаю праграмаю славацкае эміграцыі.

Славацкая Ліга ў Амэрыцы — гэта задзіночаньне, што гаворыць ад імя 800 000 амэрыканскіх Славакоў, бо яны заявілі сваю згоду зь ейнай праграмай і актыўна падтрымваюць яе. Яна гаворыць і ад імя навейшае эміграцыі, бо й гэтая эміграцыя ня мае й ня можа мець ніякае іншае праграмы, як аднаўленьне самастойнага славацкага гаспадарства. Спасярод чэскае й славацкае эміграцыі, што пасьля 1938 г. выэміігравала ў Ангельшчыну й Францыю, паўсталі дзьве самастойныя арганізацыі. Із славацкага боку гэта Славацкая Нацыянальная Рада ў Лёндане, што ад 1943 г. стаіць у войстрай супярэчнасьці да чэхаславацкае ідэі. Із чэскага боку гэта рух генэрала Лява Прхаля, што абапіраецца адно на чэскія сілы і ў сваіх публічных выступах у ніякім разе на апэруе ідэяй чэхаславакізму. Славацкая Нацыянальная Рада ў Лёндане цесна супрацуе із Славацкай Лігай у Амэрыцы. I з боку генэрала Л. Прхаля ведамыя аб'явы сымпатыі да праграмы Славацкае Лігі.

Славацкі Нацыянальны Камітэт на Нямеччыну зварачаецца з гэтым заклікам да ўсіх сваіх суродзічаў такой дарогай, ня маючы свае собскае прэсы. З другога боку, і іншым групам эміграцыі трэба мець наўвеце групаваньне сілаў з Чэхаславаччыны.

**Старшыня** (подпіс) **Сакратар** (подпіс)

## ПЕРАД ПРЫЗНАНЬНЕМ ЭМІГРАЦЫЙНЫХ УРАДАЎ

Собскі карэспандэнт украінскае газэты «Час» Багдан Ірчан піша з Парыжу, што «пасьля апошніх палітычных падзеяў на прасторы Сярэдня-Ўсходняе Эўропы ў тутэйшых палітычных колах паважна гаворыць пра магчымасьць прызнаньня заходнімі дзяржавамі г. зв. экзыльных (г. зн. эміграцыйных) урадаў, якія ўжо йснуюць ці будуць створаныя. Уважаюць, што сэсія ЗН, якую пастаноўлена адбыць у верасьні ў Парыжы, будзе мець назоў «сэсіі прыгнечаных народаў» (гл. «Час», № 18 (132) ад 11. 4. 1948).

# РЭХА САКАВІКА

## АД САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР

Рада БНР атрымала шмат павіншаваньняў ад беларускіх арганізацыяў і нацыянальных дзеячоў зь Нямеччыны, Францыі, Ангельшчыны, ЗША, Бэльгіі, Канады, Аргентыны, Італіі, Аўстрыі й інш. краёў з нагоды 30-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. У сувязі з тым, што Рада ня мае магчымасьці адказаць на кажнае асобнае павіншаваньне, гэтай дарогай праз беларускую прэсу яна складае шчырую падзяку й прызнаньне ўсім тым, хто прывітаў яе на ўгодкі ейнага змаганьня й змаганьня Беларускага Народу за незалежнасьць Беларусі.

4. 4. 1948 г. **Сакратарыят Рады БНР**

Гаспода.

### ГАЗЭТЫ ДП ДА САКАВІКА

Апрача ўспомненых намі часапісаў ДП, зьмясьцілі матар'ялы аб 25 Сакавіку яшчэ летувіскія газэты «Mintis» («Думка», выходзіць у Мэмінгене) і «Lietuvus Sodis» («Летувіскае Слова» у Дэтмольдзе; аб газэце «Žiburiai» — «Сьветачы», вых. у Аўгсбургу, мы ўжо ўспаміналі ў папярэднім нумары).

### САВЕЦКАЯ «НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ» БЕЛАРУСІ І ЎКРАІНЫ

Адзін з апошніх савецкіх «незварачэнцаў», ведамы Віктар Краўчанка, быў нядаўна дапытваны спэцыяльнай камісіяй дасьледваньня камунізму ў ЗША. Між іншых, сьледчы Стрыплінг задаў яму пытаньне, **ці Беларуская і Украінская савецкія рэспублікі, што маюць сваіх апрычоных прадстаўнікоў у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, запраўды незалежныя,** ці прадстаўнікі гэтых краёў запраўды рэпрэзэнтуюць жыхарства гэных рэспублікаў.

У сваім адказе Краўчанка больш спасылаўся на прыклад Украіны, знаёмы яму бліжэй, але кажнаму ясна, што і з г. зв. Беларускай ССР справа стаіць ня лепш, калі йшчэ ня горш. Краўчанка сказаў, што **кажная савецкая рэспубліка ў СССР мае ў запраўднасьці менш аўтаноміі й незалежнасьці, чымся які-небудзь штат у Амэрыцы.** Прыкладам, Украіна мае дужую прамысловасьць із капальнямі зялеза, вугальля, электрычнымі прадпрыемствамі, із хвабрыкамі машынаў ды інш. Але ў урадзе УССР няма ніякіх міністэрстваў, што загадвалі-б названымі прамысловасьцямі. Уся праца гэтых прамысловасьцяў падпарадкаваная ўсесаюзнаму міністэрству ў Маскве. Гэтае міністэрства прызначае ўвесь адміністрацыйны й тэхнічны пэрсанал у ўкраінскай прамысловасьці паводля загадаў ЦК камуністычнае партыі ў Маскве. Далей Краўчанка сказаў: «Украінскі ўрад ня мае ніякае заканадаўнае сілы й ня мае ніякае незалежнасьці. Прыкладам, у ўкраінскім савецкім урадзе ёсьць міністэрства фінансаў, але ягонае заданьне абмежваецца тым, што яно зьдзірае падаткі й прыбыткі паводля вызначэньня маскоўскага цэнтральнага ўраду й пасылае іх у Маскву. Маскоўскі ўрад вызначае бюджэт УССР так, як хоча. Таксама ўкраінскі ўрад ня мае права распараджацца сыравінаю й прадуктамі, выробленымі на Украіне, або разьмяркоўваць іх. Гэта — таксама абсалютная манаполь цэнтральнага ўраду ў Маскве. Каротка — украінскі ўрад, як такі, ня мае ніякае ўлады. Партыйная машына на Украіне, патаёмная паліцыя, літаратурная праца, улучна з прэсаю, — усё гэта робяць людзі, прызначаныя й кантраляваныя Масквою. Украінскі савецкі ўрад ня ёсьць выражальнікам інтарэсаў украінскага народу ў Арганізацыі ЗН; гэта — зброя палітыкі савецкага цэнтральнага ўраду. Асабіста мне робіцца сорам і цяжка, калі амэрыканская прэса паважна гаворыць пра дзейнасьць сп. Мануільскага, што ён, маўляў, заступае інтарэсы Украіны, ці бо ўкраінскага народу. Дзіва, папраўдзе, што гэтае публічнае ашуканства ў ЗША прыймаюць паважна».

## КРЫХУ ПРА ЛІНІЮ КЕРЗОНА

Чытаючы № 14 (67) «Кронікі», польскае газэты ў Нямеччыне, ад 4 красавіка 1948 г. беларускі чытач ня можа абмінуць сваёй увагай двух артыкулаў, зьмешчаных у гэным нумары. Першы сп. Грабыка „Podstawowa teza" і другі сп. Дамброўскага „Guatemala i... linia Curzona". Цалком можна пагадзіцца із сп. Грабыкам, які кажа, што межы 1939 году не гарантуюць бясьпекі для Польшчы, што адзіным спосабам, які ўзмацніў-бы польскую бясьпеку, можа быць «ня толькі адпіхнуць Расею, але й адгарадзіцца ад яе». Пры гэтым аднак сп. Грабык не фармулюе дакладней, як ён уяўляе сабе гэтае «адгароджваньне», пакідаючы пытаньне адчыненым. Дык можна падумаць, што сп. Грабык ня хоча тут увайсьці ў канфлікт із Дамброўскім, бо сказаць, што паміж Польшчай і Расеяй у будучай Эўропе паўстануць беларуская ды ўкраінская дзяржавы ў іхных этнаграфічных межах — гэта значыла-б запярэчыць становішча сп. Дамброўскага, які ў сваім артыкуле цьвердзіць, быццам «народ польскі быў ад вякоў валадаром на землях на ўсход ад лініі Керзона» і быццам гэтыя землі «былі сілай вырваныя бясьсільнай Польшчы». Пры гэтым міжволі насоўваецца пытаньне, ці скончыў сп. Дамброўскі сярэднюю школу, а калі так, дык якім дзівам здаў экзамін зь гісторыі, бо выказаныя ім цьверджаньні што да Заходняе Беларусі сьветчаць аб поўным анальфабэтызьме ў галіне гісторыі сярэдняе Эўропы. Памыляецца сп. Дамброўскі, думаючы, быццам у сваім імпэрыялістычным змаганьні за Вільню й Львоў Палякі будуць падтрыманыя іншымі народамі, што былі паняволеныя гітлераўскім або савецкім таталітарызмам. Запраўды прыгожая «маральная засада», за якую задумаў змагацца сп. Дамброўскі! Стваракецца ўражаньне, што Палякі, ня ўправіўшыся самі вылезьці з бальшавіцкае няволі, пасягаюць ужо на адвечныя беларускія землі на ўсход ад Бугу. Цікава, што сказаў-бы той-жа сп. Дамброўскі, калі-б нейкі беларускі публіцысты ў сваім пісарскім запале заклікаў беларускі народ да змаганьня за Кракаў на тэй аснове, што Кракаў быў рэзыдэнцыяй Ягайлы, літоўскага (беларускага) князя й караля Кароны й Літвы (Беларусі). Хіба, што назваў-бы такога публіцыстага няшкодным фантастым. I зусім можна было-б з гэтым згадзіцца; але-ж аналёгічны выпадак маем тут, і тое самае датычыць да таго, хто намагаецца гістарычна ўгрунтаваць «мараль» сп. Дамброўскага ў закліканьні Палякоў да змаганьня за адвечныя беларускія землі.

Беларускі народ заўсёды імкнуўся й імкнецца сяньня да добрых суседзкіх дачыненьняў з усімі народамі, а асабліва із сваймі прыроднымі суседзямі. Беларускі народ ніколі не прэтэндаваў на чужую тэрыторыю, але за свае землі будзе станоўка змагацца.

Паважаныя спадары заходнія суседзі! Сяньняшні паважны мамэнт вымагае паважна задумацца над будучыняй і не будаваць «фантастычных замкаў», а імкнуцца стварыць моцныя рэальныя асновы да дабрасуседзкага сужыцьця, абапёртыя на ўзаемнай пашане народных правоў і нацыянальных ідэалаў. Народ — гэта не драўляны жаўнерык, які можна перасоўваць паводля выпадковай фантазіі. Ніякія разважаньні ня могуць зьмяніць таго факту, што лінія Керзона блізу дакладна супадае з этнаграфічнай заходняй мяжой беларускага народу. А гэтая мяжа не становіць сабой выніку нейкіх тэаратычных разважаньняў, а прадстаўляе рэальную існасьць, прызнаную ўсімі народамі сьвету.

**Наваградчанін.**

